Сінадальны апытальнік 2
Як змагацца са спакусамі? 4
Школа св. Юзафа 5
Св. Ян Павел II аб Вялікім посце 6

**Гродна**
№6 (535),
22 сакавіка 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# СЛУЖЫЦЬ ДАБРУ ЗАЧАТАГА ДЗІЦЯЦІ

**25 САКАВІКА КАТАЛІЦКІ КАСЦЁЛ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ БУДЗЕ АДЗНАЧАЦЬ УРАЧЫСТАСЦЬ ЗВЕСТАВАННЯ ПАНА. МАЕМ ВЫКЛЮЧНУЮ НАГОДУ, КАБ ПАДЗЯКАВАЦЬ І ЗАДУМАЦЦА НАД ЖЫЦЦЁМ. ТАКСАМА Ў ГЭТЫ ДЗЕНЬ МОЖНА ЎРАЧЫСТА ПРЫНЯЦЬ АБАВЯЗАК ДУХОЎНАГА ЎСЫНАЎЛЕННЯ ДЗІЦЯЦІ, ЖЫЦЦЁ ЯКОГА ЗНАХОДЗІЦЦА ПАД ПАГРОЗАЙ. ЯГО СУТНАСЦЬ ПАЛЯГАЕ НА ТЫМ, ШТО ЧАЛАВЕК ДАЕ АБЯЦАННЕ НА ПРАЦЯГУ 9-ЦІ МЕСЯЦАЎ МАЛІЦЦА ЗА АДНО ЗАЧАТАЕ ДЗІЦЯ, КАБ ЯНО ЗМАГЛО З'ЯВІЦЦА НА СВЕТ, А НЕ СТАЛА АХВЯРАЙ АБОРТУ.**

● працяг на с. 3

**"Чалавечае жыццё заўсёды святое і заўсёды «якаснае»". Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### IV НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
**Ян 9, 1. 6–9. 13–17. 34–38**

Праходзячы, Езус убачыў чалавека, сляпога ад нараджэння. Ён плюнуў на зямлю, зрабіў са сліны гразь і памазаў граззю вочы сляпому, і сказаў яму: "Ідзі, абмыйся ў купальні Сілаам (што перакладаецца «пасланы»)". Той пайшоў, абмыўся і прыйшоў відушчы. А суседзі і тыя, хто бачыў яго раней жабраком, казалі: "Ці не той гэта, які сядзеў і жабраваў?". Адны казалі: "Гэта ён", – а іншыя: "Падобны да яго". А ён сам казаў: "Гэта я". І павялі яго, таго, што нядаўна быў сляпы, да фарысеяў. А ў той дзень, калі Езус зрабіў гразь і адкрыў яму вочы, быў шабат. І фарысеі зноў пыталіся ў яго, як ён стаў бачыць. Ён жа сказаў ім: "Гразь паклаў мне на вочы, я абмыўся – і бачу". Тады некаторыя з фарысеяў казалі: "Не ад Бога гэты чалавек, бо не захоўвае шабату". Іншыя казалі: "Як можа грэшны чалавек чыніць такія цуды?". І падзяліліся яны. Зноў жа кажуць сляпому: "А ты што скажаш пра Яго, бо Ён адкрыў табе вочы?". Той адказаў: "Гэта прарок". Сказалі яму ў адказ: "У грахах ты ўвесь нарадзіўся, і ты яшчэ нас вучыш?". І выгналі яго прэч. Езус пачуў, што выгналі яго прэч, знайшоў яго і сказаў: "Ці верыш ты ў Сына Чалавечага?". Той адказаў: "А хто Ён, Пане, каб я паверыў у Яго?". Езус сказаў Яму: "Ты ўжо бачыў Яго, гэта той, хто гаворыць з табою". Ён жа сказаў: "Веру, Пане", – і пакланіўся Яму.

### БОЖАЕ СВЯТЛО ПЕРАМАГАЕ ГРЭХ

Сляпы з Евангелля, які не бачыць ад нараджэння, не просіць Езуса аздаравіць яго. Ён не ведае, што значыць бачыць, у поўным сэнсе, лічыць такі стан нармальным. Езус кладзе яму на вочы гразь і гаворыць, каб абмыўся. Гэты жэст з'яўляецца ўказаннем на наш грэх, духоўнае няшчасце. Можам не адчуваць патрэбы абмывання, але калі маем на вачах гразь, то шукаем чыстай вады, каб абмыцца.

Бог адкрывае нашу бяду. Не для таго, каб асудзіць, але каб збавіць, каб вярнуць нам здольнасць бачыць справы такімі, якія яны ёсць. Грэх з'яўляецца няшчасцем, але яшчэ большае няшчасце – незаўважанне яго альбо, што яшчэ горш, "апрананне" ў цноту. Божае святло не толькі дазваляе заўважыць грэх і вызваліцца ад яго, але вядзе нас ад дабра да яшчэ большага дабра: "Бо плод святла ёсць ва ўсялякай дабрыні, справядлівасці і праўдзе" (Эф 5, 9).

"Імкніцеся да таго, што даспадобы Пану" (Эф 5, 10) – заклікае нас св. Павел. Гаворка ідзе аб нястомным пазнаванні, заўважанні і ацэнцы рэчаіснасці не толькі паводле людскіх крытэрыяў, але, найперш, Божых.

**Ці здольны я заўважаць свае ўласныя грахі?**

**Якое святло вядзе мяне праз жыццё?**

### V НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
**Ян 11, 3–7. 17. 20–27. 33b–45**

Сёстры паслалі сказаць Езусу: "Пане, той, каго Ты любіш, хворы". Пачуўшы гэта, Езус сказаў: "Гэтая хвароба не вядзе да смерці, але да славы Божай, каб Сын Чалавечы праславіўся праз яе". Езус жа любіў Марту, яе сястру і Лазара. Пачуўшы, што той хворы, застаўся два дні на тым месцы, дзе знаходзіўся. Пасля гэтага сказаў вучням: "Пойдзем зноў у Юдэю". Прыйшоўшы, Езус даведаўся, што Лазар ужо чатыры дні ў магіле. Калі Марта пачула, што ідзе Езус, яна выйшла Яму насустрач, а Марыя сядзела дома. Тады Марта сказала Езусу: "Пане, калі б Ты быў тут, не памёр бы брат мой. Але і цяпер ведаю, што аб чым бы Ты ні папрасіў Бога, Бог дасць Табе". Езус сказаў ёй: "Уваскрэсне брат твой". Марта сказала Яму: "Я ведаю, што ўваскрэсне падчас уваскрасення ў апошні дзень". Езус сказаў ёй: "Я – уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць. А кожны, хто верыць у Мяне, не памрэ ніколі. Ці верыш у гэта?". Яна адказала Яму: "Так, Пане. Я веру, што Ты Месія, сын Божы, які павінен быў прыйсці ў свет". Езус глыбока ўзрушыўся і ўсхваляваўся, дый сказаў: "Дзе вы паклалі яго?". Адказалі Яму: "Пане, ідзі і паглядзі". Езус заплакаў. Юдэі ж казалі: "Глядзі, як Ён любіў яго". А некаторыя з іх сказалі: "Ці не мог Ён, які адкрыў вочы сляпому, зрабіць, каб і гэты не памёр?". Езус жа, ізноў глыбока ўзрушаны, ідзе да магілы. Была ж гэта пячора, і камень ляжаў на ёй. Кажа Езус: "Адсуньце камень". Сястра памерлага, Марта, кажа Яму: "Пане, ужо смярдзіць, бо чацвёрты дзень, як памёр". Езус кажа Ёй: "Ці не казаў Я табе, што, калі будзеш верыць, убачыш славу Божую?". Тады адсунулі камень. А Езус узняў вочы і сказаў: "Ойча, дзякую Табе, што Ты пачуў Мяне. Я ведаў, што Ты заўсёды чуеш Мяне. Але сказаў дзеля натоўпу, які стаіць вакол, каб паверылі, што Ты паслаў Мяне". І, сказаўшы гэта, крыкнуў моцным голасам: "Лазар, выйдзі вонкі". І выйшаў памерлы з нагамі і рукамі, абвязанымі палатном, а твар ягоны быў абвязаны хусткаю. Езус кажа ім: "Развяжыце Яго і дазвольце яму хадзіць". Тады многія з юдэяў, якія прыйшлі да Марыі і бачылі, што ўчыніў Езус, паверылі ў Яго.

### ВЕРА АДЧЫНЯЕ БРАМЫ НЕБА

Кожнае нечаканае аздараўленне можна назваць цудам, але здаецца, што ўваскрашэнне памерлага з'яўляецца найбольш відавочным прыкладам гэтага. Евангелле паказвае нам, як Езус вяртае жыццё Лазару. Гэта адбываецца ў момант, калі праз 4 дні пасля смерці цела ўжо пачало раскладацца. Той, з кім ужо развіталіся, вярнуўся да жыцця.

Няважна, ляжыць чалавек у магіле 100 гадоў ці толькі гадзіну. Ніхто не здольны ажывіць памерлага, бо ніхто, акрамя Бога, не мае ўлады над жыццём. Таму ўваскрашэнне Лазара з'яўляецца вялікім цудам. Аднак значна больш шакіруючым стане для нас паўстанне цел з мёртвых да новага, вечнага жыцця! Атрымаем тады хвалебнае, духоўнае цела, непадобнае на зямное.

Езус дае нам сёння ключ, які адчыняе брамы вечнага жыцця. Гэтым ключом з'яўляецца вера: "Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць" (Ян 11, 25b). Таму, каб уваскрэснуць і мець магчымасць цешыцца вечным шчасцем, трэба шукаць сэнс жыцця ў Богу.

**Ці веру ва ўваскрасенне памерлых?**

**Якія цуды ў маім жыцці здзяйсняе Пан?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Барацьба за жыццё

***Гісторыя занатуе першыя месяцы 2020 года як балючы досвед, які перажывала чалавецтва. Увесь свет змагаецца з эпідэміялагічнай пагрозай, звязанай з распаўсюджваннем каранавіруса...***

Да нас штодня даходзіць інфармацыя аб колькасці заражаных, а таксама смутныя звесткі пра чарговых загінулых. Сярод людзей пануе паўсюдная паніка і хаос. Некаторыя краіны закрываюць свае межы, адмяняюць шматлюдныя набажэнствы ў касцёлах. Мы становімся сведкамі таго, як нябачны вірус можа дэзарганізаваць дзейнасць магутных супольнасцей. Яны становяцца бездапаможнымі, як дзеці! На нашых вачах перад маленькім вірусам у кароне падаюць ніц ад страху нават вялікія гэтага свету, тыя самыя, якія яшчэ хвіліну таму былі гатовы змагацца з Богам і Яго законам Любові.

Перажываемы час уносіць шмат блытаніны. Мы яшчэ не ведаем, якімі будуць наступствы гэтага новага вопыту. Не ведаем, што чакае заўтра. Ведаем толькі тое, што мы слабыя, кволыя, бездапаможныя...

У часе Вялікага посту, які сапраўды ў гэтым годзе стаў асаблівым, варта падпарадкавацца Божай волі з вялікім пачуццём даверу да нашага Айца. Як моцна неабходна спадзявацца на Пана, таму што Ён не з'яўляецца бацькам страху! Хутчэй за ўсё, Ён хоча даць нам знак новай сілы і новага жыцця, калі засведчым пра свой давер.

Асаблівым чынам у гэты перыяд велікапоснага пакаяння мы павінны ўсведамляць свае грахі, таму што "не цвікі Цябе прыбілі, а мой грэх; Цябе пакрыўдзілі не людзі, а мой грэх...". Драма сучаснага чалавека заключаецца ў тым, што ён не хоча шкадаваць за грахі, бо не адчувае, што знаходзіцца пад іх уплывам. Між тым, не прызнаючы сябе грэшнікам, немагчыма знайсці шлях да міласэрнага сэрца Бога. Божая міласэрнасць – самая значная прыкмета Стварыцеля і Збаўцы, як запісала ў сваім "Дзённіку" с. Фаўстына, – праяўляецца ў прабачэнні грахоў.

Перад абліччам гэтага досведу мы ўсе павінны нанова звярнуцца да Бога. Павінны таксама захаваць веру, бо Бог вышэй за вірус. "Калі Бог за нас, хто ж супраць нас?" (Рым 8, 31). Няхай кожны займаецца сваёй справай: спецыялісты шукаюць адпаведнае медыцынскае рашэнне, а мы трываймa ў малітве. Малітва – аснова нашай веры, якая дазваляе перажыць цяжкія часы.

Будзьма моцнымі ў веры! Бог дае нам час асаблівых рэкалекцый, адпраўляемых часта вельмі асабіста, у глыбіні сэрца. Гэта час для малітвы, посту і міласціны. Давайце выкарыстаем яго плён на карысць уласнай душы, дзеля духоўнага дабра сваёй сям'і, просячы ў Бога міласці для нас і ўсяго свету.

**Дарагія Чытачы!**

**Хутка будзем адзначаць Дзень святасці жыцця. Яго мэта – выклікаць адчувальнасць да сэнсу і каштоўнасці чалавечага жыцця на кожным этапе і звярнуць увагу на неабходнасць асаблівага клопату пра яго.**

**Сёння старанная малітва вельмі патрэбна таксама для таго, каб нарэшце скончыліся ў нашай краіне і ў многіх іншых краінах свету забойствы ненароджаных дзяцей, успрымаемыя як спосаб пазбаўлення ад праблем. Такім чынам, мы ўсе разам пакліканы ўстаць на абарону здароўя і жыцця кожнай жанчыны і кожнага мужчыны, як і кожнага дзіцяці, ад зачацця да натуральнай смерці!**

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Апытальнік на падставе прац камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Камісія па справах душпастырства сем'яў і сужэнстваў

1. Якія формы душпастырскай дзейнасці з сем'ямі існуюць у Вашай парафіі (пералічыце групы або таварыствы)?
2. Хто займаецца душпастырствам сем'яў (святар / манахіня / свецкая асоба)?
3. Якія напрамкі душпастырскай дзейнасці з сем'ямі Вы лічыце больш неабходнымі (маладыя сем'і, сем'і сталага ўзросту, несакраментальныя саюзы і інш.)?
4. Ці праходзіць у Вашай прафіі падрыхтоўка да сакраманту сужэнства (калі так, то як яна адбываецца)?
5. Ці лічыце неабходным задзейнічанне ў душпастырстве сем'яў кваліфікаваных асоб? Каго б маглі параіць?
6. Як, на Вашу думку, у сям'і і пры касцёле павінна адбывацца выхаванне дзяцей і моладзі да заснавання хрысціянскай сям'і?
7. Ці лічыце дастатковымі свае веды пра пакліканне да сям'і і сужэнства?
8. Як супрацьстаяць сучасным выклікам і захаваць традыцыйны інстытут сям'і ў сённяшнім грамадстве?
9. Якія формы душпастырскай дзейнасці з боку Касцёла маглі б паспрыяць папулярызацыі сямейных каштоўнасцей?
10. Якія формы душпастырскай дзейнасці з боку Касцёла маглі б паспрыяць абароне зачатага жыцця?
11. Як, на Вашу думку, неабходна фарміраваць у маладых павагу да старэйшага пакалення?
12. Якія формы перадачы хрысціянскіх каштоўнасцей дзецям і моладзі існуюць у Вашай сям'і?
13. Ці лічыце дастатковым зацікаўленне Касцёла справамі сям'і ў сваёй парафіі і дэканаце?

### Камісія па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу

1. Што робіцца для адзінства хрысціян у Вашай парафіі або дэканаце?
2. Ці існуюць сталыя адносіны з хрысціянскімі супольнасцямі (калі так, то якія)?
3. Ці праводзяцца на грамадска-культурным узроўні сумесныя мерапрыемствы з прадстаўнікамі іншых хрысціянскіх канфесій (напрыклад, пастаральныя праекты, сацыяльныя акцыі і інш.)?
4. Што, на Вашую думку, стварае перашкоды для адзінства хрысціян у Вашай парафіі і дэканаце?
5. Якія перашкоды ў паразуменні адносна сакраментальнага душпастырства існуюць паміж хрысціянскімі канфесіямі?
а) св. хрост: праблемы і спосабы іх вырашэння;
б) змешаныя сужэнствы;
в) споведзь і св. Камунія.
6. Ці магчымы, на Вашу думку, дыялог з няверуючымі (калі так, то якім чынам ён павінен адбывацца)?
7. Ці прысутнічае экуменічная тэматыка ў катэхізацыі і казаннях у Вашай парафіі?
8. Якія маеце заўвагі і прапановы ў справе экуменічнай дзейнасці?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню: synodus.grodnensis@gmail.com.***




# СЛУЖЫЦЬ ДАБРУ ЗАЧАТАГА ДЗІЦЯЦІ

● працяг са с. 1

***У 2019 годзе ў Беларусі нарадзілася 87 851 дзіця. Гэта гістарычны мінімум за перыяд з 1945 года. Калі ж казаць пра іншы паказчык – лічбу перарваных цяжарнасцей, то ён склаў больш за 20 000. Наколькі важна апынуцца побач з жанчынай, якая плануе здзейсніць аборт, і падабраць для яе патрэбныя словы? Якім чынам у горадзе над Нёманам змагаюцца за правы дзяцей нарадзіцца? Разважаюць спецыялісты, неабыякавыя да справы абароны зачатага жыцця.***







**Кацярына Таразевіч,**
**псіхолаг у Жаночай кансультацыі №1 г. Гродна**

*Сёння, згодна з загадам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, кожная жанчына, якая хоча перарваць цяжарнасць, павінна пракансультавацца ў кабінеце псіхолага ці псіхатэрапеўта. Але тыя, хто прыходзіць на размову, зусім нематываваныя, іх адправілі са словамі: "Пакуль не сходзіш да псіхолага і не паставіш пячатку, аборт рабіць не будзем". Некаторыя часам адразу з парога заяўляюць: "Мне толькі паперку падпісаць". Яны ўспрымаюць сустрэчу са спецыялістам як звычайную фармальнасць, зусім не задумваюцца аб тым, што нехта з імі будзе працаваць. Таксама ёсць катэгорыя жанчын, якія ўпэўнены, што тут іх пачнуць адразу ўгаворваць ці аказваць ціск. Але гэта зусім не так. Мая задача як псіхолага – пастарацца пераадолець супраціў і зрабіць з нематываванай асобы матываваную.*

*Я ніколі не пачынаю размовы з тэмы аборту, паколькі ведаю, што жанчына не прыняла рашэнне перарваць цяжарнасць проста так, і ёсць нейкія прычыны, фактары, якія прымусілі яе на гэта адважыцца. Мы разважаем аб жыцці, я задаю пытанні адносна сям'і, мужа, дзяцей. У гэты момант вельмі ўважліва назіраю за жанчынай, слухаю, што яна гаворыць. І ведаеце, заўсёды знаходжу пэўныя ўзаемасувязі паміж праблемай і нейкай устаноўкай. Напрыклад, жанчына лічыць, што двое дзяцей – гэта нармальна, трое альбо чацвёра – ужо адхіленне ад нормы. А шматдзетная сям'я абавязкова сацыяльна небяспечная. І па гэтай прычыне яна нават не разглядае магчымасці, што будзе нараджаць. Часам даводзіцца чуць, што было цяжка гадаваць дзяцей, што адно дзіця, напрыклад, праблемнае альбо хворае. І жанчыну ахоплівае страх перад тым, што гісторыя можа паўтарыцца.*

*З якім бы выразам твару і настроем жанчына не ўвайшла ў кабінет псіхолага, унутры заўсёды шмат болю і віны. І з маёй практыкі вынікае, што чым больш пафасу і холаду дэманструецца напачатку, тым больш пасля будзе слёз, дастаткова толькі закрануць пэўныя струны душы. Варта адзначыць, што не заўсёды жанчыны ідуць на адчайны крок па сваёй волі. Для мяне стала вельмі непрыемным адкрыццём, што рашэнне зрабіць аборт часам прымаецца не з падачы мужа, а самага роднага чалавека – мамы. Гэта звязана, у першую чаргу, з інфантыльнасцю сужэнцаў: бацькі купілі кватэру, зрабілі рамонт, даюць грошы, таму яны і могуць уплываць на рашэнне, колькі дзяцей нарадзіць. Гавораць: "Вы не пацягнеце трэцяе дзіця", "З такім мужам не варта нараджаць" – і жанчына ідзе перарываць цяжарнасць.*

*Падчас размовы я таксама заўсёды пытаюся, ці ведае муж пра цяжарнасць, бо часта здараецца, што мужчына ўвогуле не здагадваецца, што адбываецца. Яшчэ абавязкова цікаўлюся, якім чынам жанчына паведаміла, што зацяжарыла: з усмешкай, радасная, абняла мужа ці са слязьмі і істэрыкай выйшла з прыбіральні. Насамрэч, ад гэтага шмат залежыць, бо мужчыны вельмі часта арыентуюцца на рэакцыю жанчыны і чакаюць, што яна сама прыме рашэнне. У іх страхаў не менш. І часцей за ўсё, калі жанчына ўпэўнена кажа, што будзе нараджаць, мужчына яе падтрымлівае. Часам здараецца, што бацька дзіцяці ўвогуле не ў курсе ні пра цяжарнасць, ні пра тое, што яго жонка вырашыла яе перарваць. Тут я заўсёды раблю акцэнт, што мужчына мае права ведаць, бо гэта такое ж яго дзіця, як і яе, ён нясе такую ж адказнасць як бацька, і ніхто не мае маральнага права прымаць за яго такое рашэнне.*

*Аднойчы ў маёй практыцы мела месца наступная гісторыя. На прыём прыйшла жанчына, якая выйшла замуж другі раз. Ад першага шлюбу яна ўжо мела трох сыноў. Другі яе муж, паводле дыягназу ўрача, быў бясплодны. Але праз паўгода сямейнага жыцця жанчына зацяжарыла і… прыйшла на прыём з намерам рабіць аборт. Я запыталася, ці яна ўвогуле пагаварыла з мужам, бо ён жа ўсё жыццё быў упэўнены, што ніколі не зможа мець дзяцей, і для яго навіна аб цяжарнасці, напэўна, будзе сапраўдным падарункам. Аказалася, да прыходу ў кабінет псіхолага жанчына нічога не паведаміла мужу, таму што баялася, што чацвёртае дзіця яны "не пацягнуць". Моцна плакала, але пасля сабралася з думкамі і пайшла дадому. Мы сустрэліся праз некалькі дзён, і жанчына была ў зусім іншым настроі, бо пагаварыла з мужам: яны вырашылі нараджаць. Праз некаторы час мы выпадкова ўбачыліся ў горадзе. Пацыентка мне вельмі дзякавала і проста свяцілася ад шчасця, таму што даведалася на УГД, што чакаюць дзяўчынку.*

*Паводле статыстыкі нашай жаночай кансультацыі, з 8-10 пракансультаваных жанчын 2-3 захоўваюць цяжарнасць. Гэта на самой справе добры паказчык у параўнанні з іншымі медыцынскімі ўстановамі. Але ці дажывём мы да тых часоў, калі абортаў зусім не стане?..*



**Аліна Санько,**
**ініцыятар і каардынатар малітоўнай групы "У абароне жыцця"**

*Лепшая школа святасці – мацярынства. Асабліва разумею гэта, калі мае дзеці пачынаюць капрызіць, кідаюцца ў істэрыкі, упарцяцца або не слухаюцца. У такія складаныя хвіліны вельмі важна не страціць самавалоданне, не паддацца злосці або гневу (што часам сапраўды цяжка), а цвяроза ацаніць сітуацыю, знайсці сапраўдную прычыну такіх паводзін і перамагчы зло дабром. Часам патрэбна каласальнае цярпенне, каб не пайсці на повадзе ў непрыемных і непажаданых эмоцый, а з любоўю дапамагчы дзецям аднавіцца пасля стрэсу. Шматдзетныя бацькі праходзяць такія трэніроўкі па самавыхаванні па некалькі разоў на дзень. Вытрымцы, якая выпрацоўваецца з гадамі, могуць пазайздросціць многія. А колькі працы і самаадрачэння трэба, каб выгадаваць дзяцей…*

*У Святым Пісанні гаворыцца: "І хто напоіць аднаго з малых гэтых толькі кубкам халоднай вады як вучня, сапраўды кажу вам, не страціць узнагароды сваёй" (Мц 10, 42). Мамы дзень і ноч гатовы служыць сваёй сям'і, дзецям. І таму асаблівым сэнсам напаўняюцца словы апостала Паўла: "Яна [жанчына] будзе збаўлена праз нараджэнне дзяцей, калі яны будуць трываць у веры, любові і святасці з развагаю" (1 Цім 2, 15). Прабываючы ў каханні, нараджаючы дзяцей у сям'і і выхоўваючы іх у хрысціянскай веры – ці не гэта лепшы шлях да святасці? Асабліва ў нашыя часы, калі вера многіх людзей аслабела, а аборты сталі нормай. Нам патрэбна шмат малітва, каб вера і святасць узрасталі ў нашым грамадстве, каб мамы не баяліся нараджаць дзяцей, будаваць свае сем'і на фундаменце, якім ёсць Езус Хрыстус.*

*Сёння неабходна паклапаціцца пра кожнае зачатае дзіця, каб заўтра мы мелі будучыню. Дзякуючы групе "У абароне жыцця" бесперапынная малітва ў іх інтэнцыі працягваецца ў Гродне ўжо 7 гадоў. Любы ахвотны можа далучыцца да гэтай прыгожай ініцыятывы, дзе ўдзельнікі сваёй малітвай стаяць у абароне жыцця ад зачацця да натуральнай смерці, распаўсюджваюць духоўнае ўсынаўленне дзяцей, якія знаходзяцца пад сэрцам маці. Маліцца адну гадзіну на тыдзень у вышэй узгаданых інтэнцыях – не так і шмат, але які вялікі плён гэтай малітвы! Сем'і, якія не мелі дзяцей, змаглі зачаць і нарадзіць, жанчыны, якія збіраліся перарваць цяжарнасць, змянілі сваё рашэнне, адносіны ў тых сем'ях, дзе моляцца, умацаваліся, урачы пачалі адмаўляцца рабіць аборты, а самі ўдзельнікі ініцыятывы пачалі атрымліваць для сябе і сваіх сем'яў Божае блаславенне…*




**Марына Валачкова,**
**кіраўнік цэнтра абароны жыцця і сям'і "РадзіМА"**

*Наша дабрачынная арганізацыя існуе з 2013 года. У школах, каледжах, універсітэтах, бальніцах, воінскіх частках мы пастаянна праводзім лекцыі з выставамі: "Ратуй узятых на смерць", "Традыцыйная маральнасць і сямейныя каштоўнасці", "Ёсць два шляхі: шлях жыцця і шлях смерці". Распавядаем пра тое, што жыццё дзіцяці пачынаецца ад моманту зачацця. У гэты час ужо ўсё вызначана: хлопчык гэта ці дзяўчынка, група крыві, колер вачэй, валасоў… І ад мамы залежыць, ці мае шанс дзіця з'явіцца на гэты свет праз 9 месяцаў.*

*Сёння Беларусь сутыкаецца з праблемамі зніжэння нараджальнасці роўна так, як і іншыя дзяржавы. Але паслядоўная і комплексная работа вялікай колькасці неабыякавых людзей дазволіла зрушыць праблему ў бок паляпшэння. Па законе аборт уваходзіць у пералік прафесійнай медыцынскай дапамогі, і акушэры-гінеколагі абавязаны перарываць цяжарнасць на тэрміне да 12-ці тыдняў, калі жанчына выказвае такое жаданне. На больш позніх тэрмінах гэта дапускаецца толькі па медыцынскіх паказаннях. Вельмі часта гавораць аб эканамічных прычынах аборту, але яны ляжаць, на маю думку, у іншай сферы – сферы духоўных каштоўнасцей. Мы падзяляем агульную хрысціянскую пазіцыю ў дачыненні да святасці і недатыкальнасці чалавечага жыцця ад моманту зачацця да зыходу з гэтага свету: дар жыцця дае Бог, і чалавек не мае права распараджацца тым, што яму першапачаткова не належыць. Менавіта таму прыкладаем шмат намаганняў, накіраваных на абарону жыцця і сямейных каштоўнасцей, падтрымку мацярынства.*

*Я асабіста дзяжуру на тэлефоне даверу і гатова дапамагчы кожнай жанчыне, якая апынулася ў цяжкай сітуацыі. Дзякуючы ініцыятыве нашай арганізацыі і пры падтрымцы медыкаў, мясцовых улад, праваслаўных і каталіцкіх святароў у Гродне з'явіўся тралейбус з сацыяльнай рэкламай па прафілактыцы абортаў "Урачы Гродна – за жыццё". Па ўсім горадзе размешчаны білборды, прысвечаныя захаванню традыцыйнай сям'і і ўсынаўленню. У жаночых кансультацыях і паліклініках распаўсюджваюцца буклеты ў абарону жыцця. Мы шчыра верым у тое, што калі хоць адна цяжарная жанчына адмовіцца ад аборту, прачытаўшы "Мама, у мяне ўжо б'ецца сэрца", – наша місія будзе выканана.*

*Кінга Красіцкая*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*У сэрцы кожнага чалавека, нават самага сапсаванага і далёкага ад дабра, схавана гарачае імкненне да святла. Нават калі ён знаходзіцца пад руінамі ілжы і памылак, заўсёды мае прагу праўды і дабра, якая з'яўляецца прагай Бога. Гэта Святы Дух стварае такую прагу: менавіта Ён з'яўляецца жывой вадой, якая перамяняе прах; менавіта Ён – подых Стварыцеля, які даў нам жыццё.*

*Фрагмент прамовы падчас "тэлевізійнай" агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 11.03.2020*

### Канферэнцыя Каталіцкіх Бікупаў у Беларусі



*Вядома, усмешка ўпрыгожвае чалавека. Але яшчэ больш яго ўпрыгожваюць добрыя ўчынкі. Учынкі і жэсты, якія прыносяць палёгку і суцяшэнне, якія робяць бліжняга больш шчаслівым. Таму прыклад святых так прыцягвае нас сваёй неўвядальнай прыгажосцю. Узор сапраўднага служэння бліжняму, які бачым у праслаўленых святых, – гэта не толькі велічна, гэта таксама вельмі прыгожа.*

*Калі мы больш уважліва прыглядзімся да жыцця святых, якія рабілі ўчынкі міласэрнасці, можам быць нават здзіўлены іх простым, будзённым падыходам да жыцця. Яны не шукалі для сябе славы, не імкнуліся здзейсніць нешта вялікае і гераічнае, не стараліся змяніць свет. Яны проста з любоўю клапаціліся пра сваіх бліжніх, пра патрабуючых братоў і сясцёр, выкарыстоўваючы кожную магчымасць для таго, каб рабіць ім дабро.*

*Іх справы не толькі прынеслі камусьці палёгку і суцяшэнне. Яны сталі прыкладам для іншых хрысціян. Вучаць нас таму, як павінны ставіцца да братоў і сясцёр, асабліва да патрабуючых: бедных, хворых, самотных, пакрыўджаных. "Дык ідзіце і навучайце ўсе народы […]. Вучыце іх захоўваць усё, што Я загадаў вам" (параўн. Мц 28, 19–20), – кажа Езус сваім вучням, пачынаючы ад апосталаў і ва ўсе наступныя часы. Яго загад – гэта наказ любові, які мы пакліканы рэалізоўваць у штодзённых справах міласэрнасці да бліжніх.*

*Аднак пры гэтым варта памятаць, што сапраўдная міласэрнасць не толькі ў тым, каб дапамагчы камусьці матэрыяльна, прысвяціць іншаму чалавеку свой час, увагу і апеку. Не менш важна стымуляваць чалавека да таго, каб ён мог палепшыць сваё жыццё з дапамогай новай працы, навучання, перамены адносін і звычак. Часта нават людзі хворыя і нямоглыя маюць вялікі нерэалізаваны патэнцыял. Трэба дапамагчы ім задзейнічаць яго для таго, каб жыццё стала больш поўным, а яны самі – рэалізаванымі і ад таго больш шчаслівымі.*

*Фрагмент Ліста на нядзелю "Карытас", 15.03.2020*



◆ Святы Айцец зацвердзіў тэму наступнага Сінода Біскупаў, які адбудзецца ў кастрычніку 2022 года. Яна будзе гучаць наступным чынам: "На карысць Касцёла сінадальнага – камунія, удзел і місія". Рашэнне прынята на падставе вынікаў кансультацый, праведзеных з біскупскімі канферэнцыямі, Сінодамі Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, дыкастэрыямі Рымскай курыі і радамі вышэйшых манаскіх настаяцеляў.

◆ Завяршыўся першы этап працэсу беатыфікацыі с. Леоны Мартэн, дачкі свсв. Зэліі і Луі Мартэнаў, старэйшай сястры св. Тэрэзы з Лізьё. Акты справы перададзены Кангрэгацыі па кананізацыі. Як адзначаецца ў пастулацы, "прывядзенне да алтара с. Леоны можа падацца незразумелым, бо яе жыццё было вельмі паракручаным. Гэта складанае дзіця, якое ўступала ў ордэн тройчы, мела шматлікія крызісы і дэпрэсіі, але, нягледзячы на ўсе няўдачы, заставалася верным Богу". Распачацце працэсу беатыфікацыі стала неабходным крокам, з улікам папулярнасці культу, які атачае с. Леону, масавых паломніцтваў на яе магілу і шматлікіх сведчанняў аб сіле заступніцтва манахіні.

◆ Санктуарый Маці Божай Чанстахоўскай на Яснай Гары ў Польшчы атрымаў прывілей поўнага адпусту "in perpetuo", г. зн. "назаўсёды" (без неабходнасці падаўжэння дазволу), для ўсіх вернікаў, якія наведваюць святое месца. Гэта адказ Апостальскай Сталіцы на клопат айцоў паўлінаў "пра духоўнае дабро мільёнаў пілігрымаў". Адпуст можна атрымаць у яснагорскім санктуарыі на звычайных умовах. Для гэтага трэба быць у стане асвячальнай ласкі, прыняць св. Камунію і памаліцца ў намерах Святога Айца.

◆ Для Папскай швейцарскай гвардыі пабудуюць новую казарму. Тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне паказала, што рацыянальным будзе знос цяперашняй казармы паміж ватыканскімі плошчай св. Пятра і варотамі св. Ганны і будаўніцтва новай на тым жа месцы. Працы запланаваны на 2023–2026 гады. Кошт праекта – 51,6 мільёнаў еўра. Сума ўключае неабходныя сродкі для часовага размяшчэння рэкрутаў у перыяд будаўніцтва. Фінансаванне мае весціся за кошт ахвяраванняў.

◆ Ва Украіне трываюць працы над кінастужкай "Верце". Фільм заснаваны на рэальных падзеях і распавядае пра пераслед хрысціян атэістычным камуністычным рэжымам. Вінніцкая вобласць, 1920–1950 гады. Галоўны герой Пётр становіцца тварам да твару з новай савецкай ідэалогіяй, якая не прымае рэлігію, прапагандуе адмову ад веры ў Бога. Яго сям'я ратуе сакральныя рэчы са святыні, у якую ўрываюцца вайскоўцы. Мужчына пакідае сям'ю і адпраўляецца ў ссылку ва ўральскі лагер, дзе і разгортваюцца галоўныя падзеі фільма. Ідэя здымак належыць Асамблеі Місіянераў Беззаганнай Марыі Украіны.

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*

# Як змагацца са спакусамі?


Карціна Тыцыяна Вечэліа "Адам і Ева", каля 1550 г.

**Спакусы прысутнічаюць у жыцці кожнага чалавека. Адчуваем прагу – адчуваем і спакусы.**

### КРЫНІЦЫ СПАКУШЭННЯ

Кожны дзень у нас не аднойчы ўзнікае спакуса да граху і зла. Св. Аўгусцін гаворыць, што мы павінны пастаянна выбіраць паміж Валадарствам Бога і д'ябла. Чым большага поспеху хтосьці дабіваецца на шляху хрысціянскага ўзрастання, тым больш жорсткія спакусы будуць яго праследаваць. Нават самога Езуса спакушаў д'ябал у пустыні (параўн. Мц 4, 1–11; Лк 4, 1–13). У Евангеллі гаворыцца, што сатана хацеў выпрабаваць Яго сыноўскае стаўленне да Бога. "Езус адбівае гэтыя атакі, якія, здаецца, паўтараюць спакусы Адама ў раі і Ізраэля ў пустыні, а д'ябал адступаецца ад Яго «да пары» (параўн. Лк 4, 13)" (ККК 538). Мука Езуса: ад страху смерці ў Гетсіманіі да насмешкі фарысеяў і папроку злодзея на Голгофе – апошняя і самая суровая спакуса, якую Хрыстос пераможа як чалавек. Айцы Касцёла бачылі ў гэтых спакушэннях сатаны адлюстраванне 3-ох спакус свету з Першага Паслання св. Яна (2, 16): пажадлівасці цела, вачэй і жыццёвай пыхі.

Спакушэнне Езуса пацвярджае паходжанне спакус ад злога і тое, што яны самі па сабе не маюць маральнай каштоўнасці: не з'яўляюцца ні добрымі, ні дрэннымі. Калі спакушалі Таго, хто не здзейсніў граху, значыць спакуса значна адрозніваецца ад граху. Чалавек у сваёй свабодзе можа і павінен супрацьстаяць злу. Калі робіць гэта з-за Божай любові, адкінутыя спакусы становяцца дабрадзейнасцю і заслугай перад Богам. Пераадоленыя спакусы пры дапамозе ласкі Пана набліжаюць да Яго, умацоўваюць веру і сувязь чалавека са Стварыцелем. Тут варта ўзгадаць словы св. Паўла, што Бог не дапускае да нас спакусу, якую не змаглі б пераадолець пры дапамозе Яго ласкі (параўн. 1 Кар 10, 13). Такім чынам, грэх, які разумеецца як згода на спакусу, звязаны з адмовай ад канкрэтнай Божай ласкі.

Св. Якуб піша: "Бога нельга выпрабаваць злом, і сам Ён не выпрабоўвае нікога" (Як 1, 13b). Гэтыя словы апостала выразна паказваюць, што Бог не можа быць крыніцай спакусы. Бог, хутчэй, дазваляе спакусу, якая паходзіць не ад Яго. Так было ў выпадку біблійнага Іова. Айцы Касцёла аднагалосна называюць 3 крыніцы спакус: уласную пажадлівасць, уплыў свету і, нарэшце, дзейнасць сатаны. Выразна бачна, што не ўсе яны ідуць ад злога. Аднак гэта не значыць, што д'ябал не мае да іх ніякага дачынення. Адораны вялікім інтэлектам, ён з'яўляецца бацькам падману і майстрам маніпуляцый. Можа выкарыстоўваць першыя 2 крыніцы спакус, каб прывесці чалавека да зла. Практыка паказвае, што такая дзейнасць, такая тактыка спакушэння самая распаўсюджаная. Д'ябал рэдка спакушае чалавека беспасрэдна. Часцей за ўсё ён звяртаецца да ўнутранай неўпарадкаванасці, выкарыстоўвае знешнія раздражняльнікі, якія даходзяць да чалавека са свету.

### МЕНШЫЯ І БОЛЬШЫЯ СПАКУСЫ

Спакусы прыходзяць да любога чалавека, і важна ведаць, як з імі змагацца. Хоць амаль кожны бой са спакусай выглядае крыху інакш, усё ж можна ўсталяваць некаторыя агульныя правілы гэтай барацьбы.

Меншыя спакусы лепш разглядаць з халоднай пагардай. Той, хто яўна супрацьстаіць нават найменшым пабуджэнням, неапраўдана растрачвае свае сілы і ўносіць хваляванне ў душу. А душэўны супакой і энергія цела –

# Пекла граху



У цяперашні час у Касцёле шмат гаворыцца аб міласэрнасці. Аднак нярэдка яе разуменне звужаюць да паняццяў спачування і паблажлівасці. Грэшны свет літаральна патрабуе ад людзей Касцёла ўчынкаў міласэрнасці. На жаль, часцей толькі для цела бліжняга.

Людзі ахвотна згаджаюцца з тым, што Бог збавіць, таму што Ён міласэрны, але скептычна слухаюць альбо не давяраюць Божаму слову і вучэнню Касцёла аб магчымасці быць асуджанымі ў пекле, прычым нават за адзін смяротны (цяжкі) грэх. ***"Навука Касцёла сцвярджае, што пекла існуе і што яно вечнае. Душы тых, хто памірае ў стане смяротнага граху, пасля смерці неадкладна сыходзяць у пекла, дзе перажываюць пякельныя пакуты, вечны агонь"*** (ККК 1035). ***"Памерці ў смяротным граху, не пакаяўшыся і не прыняўшы міласэрнай любові Бога, азначае назаўжды па ўласным свабодным выбары расстацца з Ім. Гэты стан канчатковага самавыключэння з адносін з Богам і блаславёнымі называецца пекла"*** (ККК 1033).

***"Бог ёсць любоў, і хто жыве ў любові, той жыве ў Богу, і Бог у ім"*** (1 Ян 4, 16b), – гаворыць нам сам Пан вуснамі св. апостала Яна ў Біблії. ***"Дачка мая, скажы, што Я – гэта сама любоў і сама міласэрнасць",*** – звяртаецца Езус да св. Фаўстыны Кавальскай (Дз. 1074). Будзем уважлівымі, напісана не "сама міласэрнасць", але "сама любоў і сама міласэрнасць".

Божая любоў справядлівая – за дабро Бог узнагароджвае, а за зло карае. Езус сам гаворыць у Евангеллі, звяртаючыся да асуджаных: ***"Ідзіце ад Мяне, праклятыя, у агонь вечны, падрыхтаваны д'яблу і анёлам ягоным"*** (Мц 25, 41). Св. Павел ясна сцвярджае: ***"Не ўводзьце сябе ў зман: ні распуснікі, ні ідалапаклоннікі, ні чужаложнікі, ні блуднікі, ні мужаложнікі, ні злодзеі, ні хцівцы, ні п'яніцы, ні паклёпнікі, ні рабаўнікі не атрымаюць у спадчыну Божае Валадарства"*** (1 Кар 6, 9–10; параўн. Гал 5, 19–21).

Божая любоў міласэрная – Бог прабачае чалавеку грахі, калі ён шчыра раскайваецца, прымаючы разам з прабачэннем таксама і пакуту за іх. Езус сказаў жанчыне, схопленай на чужалостве: ***"Ідзі і адгэтуль больш не грашы"*** (Ян 8, 11b). Асцерагайся граху, пазбягай яго, працуй над сабой, каб зноў не зграшыць. Марнатраўны сын у прыпавесці Езуса, усведамляючы свае грахі, спадзеючыся на прабачэнне ад айца, выказвае адначасова жаданне прыняць пакаранне за іх, кажа: ***"Устану і пайду да айца майго, і скажу яму: Ойча, я зграшыў супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам. Прымі мяне як аднаго з наймітаў тваіх"*** (Лк 15, 18–19). Немагчыма прайсці ў Неба, апусціўшы галаву, праслізнуць каля Бога, не сустрэўшыся з Ім вачыма, не вызнаўшы шчыра свае грахі, не прыняўшы за іх пакуту на зямлі (і ў чысцы).

Дзеці з Фацімы бачылі пекла. Таксама і св. Тэрэза Авільская, св. Ян Боско і іншыя святыя і містыкі. Навошта Бог ім паказаў гэтую праўду? Каб больш паверылі ў Яго любоў. І каб іншым казалі, што сапраўднай любові без адказнасці няма. Каб зразумелі жудаснасць граху. Каб жылі ў Яго любові, у асвячальнай ласцы, каб чынілі пакаянне за свае грахі і грахі іншых.

Калі мы набожна разважаем Муку Пана (Крыжовы шлях, Песні жальбы), калі праз веру паглыбляемся ў таямніцу Яго цярпення, тады адкрываем веліч любові Бога да кожнага з нас. Але адначасова пачынаем усведамляць якой сур'ёзнай і грознай рэчаіснасцю ў жыцці чалавека з'яўляецца грэх, нават найменшы. Гэта праўдзівы кожнага з нас прыбілі Хрыста да крыжа, гэта нашы грахі абражаюць Яго, раняць Хрыстову найчысцейшую любоў. Менавіта нашы грахі выклікаюць блытаніну і неспакой у душы, прыносяць цярпенне, аддзяляюць ад Божай любові, разбураюць адносіны з бліжнімі.

Грэх – гэта заўсёды няўдзячнасць. Бог даў нам жыццё, розум, здароўе, таленты і здольнасці, блізкіх людзей, увесь свет! Божы Сын прыйшоў на зямлю як чалавек, каб аддаць за нас жыццё, каб адкрыць дарогу ў Неба. А мы? Як мы жывём? Здзяйсняючы свядомы і дабравольны грэх, чалавек забываецца пра свайго Дабрачынца. Аддае пашану стварэнням замест пакланення іх Стварыцелю. Грэх – гэта не проста парушэнне нейкага правіла, устаноўленага Богам ці Касцёлам, гэта страта Божай ласкі, сяброўства з Усемагутным, страта права на Неба, спакою душы і радасці жыцця, дабравольнае ўчыненне сябе рабом сатаны.

Грэх, які спачатку можа здавацца прыемным і карысным, паступова становіцца пеклам. Аб гэтым сведчаць прыклады з Біблії і штодзённага чалавечага жыцця. Цар Ірад пагарджаў Богам, сябе лічыў кімсьці вялікім – паміраў, і чарвякі зажыва елі яго цела. Жанчына хадзіла да варажбіткі – тая выцягнула ў яе ўсе грошы, трэба было кватэру прадаваць, залезла ў даўгі. У сям'і займаліся вырабам і прадажай алкаголю – павесіўся муж дачкі, у сына дыягнаставалі псіхічнае захворванне. Забілі ненароджанае дзіцятка (учынілі аборт) – страшная дэпрэсія ў маці, разбураюцца адносіны з мужам, вялікая верагоднасць разводу. Грэх распусты вядзе да венерычных захворванняў, бясплоднасці, жыцця ў страху, з'яўлення думак аб самагубстве. Прыклады можна множыць...

Некаторыя людзі кажуць, што немагчыма пражыць, каб не зграшыць, таму што жыццё нецікавае без граху... Жыццё становіцца нецікавым і бессэнсоўным без любові, без трывання ў асвячальнай ласцы. А грэх як парушэнне Божай (касцёльнай) запаведзі нішчыць сапраўдную любоў, пазбаўляе душу ласкі Пана, закрывае шлях чалавека ў Нябеснае Валадарства, а таксама будуе сцяну паміж ім і Богам.

Той, хто аддзяляе сябе праз грэх ад Бога і трывае ў такім стане, стварае пекла ў сваёй душы, а пазней і вакол сябе – для іншых. Нам трэба любым коштам захаваць у сэрцы любоў да Бога і да бліжняга. І не толькі захаваць, але і памнажаць! Трэба быць гатовымі заплаціць любую цану, каб не згадзіцца на грэх, які нішчыць сапраўдную любоў. Св. Дамінік Савіо запісаў у сваім духоўным дзённіку ў дзень Першай св. Камуніі наступныя словы: ***"Лепш смерць, чым грэх!"***.

Св. Ян Марыя Віянэй сказаў, што ***"цярплівае нясенне чалавекам свайго жыццёвага крыжа з'яўляецца знакам прызначэння для Неба".*** Шматлікія цяжкасці, праблемы, непаразуменні з бліжнімі, несправядлівасць, хваробы, непрыемнасці – гэта ўсё наш жыццёвы крыж. Трэба несці яго цярпліва, з малітвай, просячы Езуса быць побач. І тады наш крыж, злучаны з крыжам Хрыста, будзе ратаваць ад самага вялікага зла на свеце, якім з'яўляецца грэх. Будзе нашым чыстцам на зямлі, дапаможа трываць у дабры, праўдзе і любові, а затым увайсці ў Неба.

Будзем на падчас Вялікага посту прасіць аб ласцы пазнання сваіх грахоў, сапраўднага жалю за іх, цвёрдага пастанаўлення выпраўлення, здзяйсняючы пакутныя ўчынкі.

*Кс. Павел РамаROUSKі*

вялікія скарбы. Так трэба дзейнічаць, перш за ўсё, у спакусах пыхлівасці, падазронасці, зайздрасці. Так жа неабходна дзейнічаць, калі ўзнікаюць мімалётныя ідэі, думкі, пачуцці і жаданні супраць цнатлівасці, або раптоўныя, агульныя ці дакучлівыя бунты супраць веры, або таксама блюзнерскія думкі.

Калі атакуе больш сур'ёзная спакуса, пасіўнага супраціву недастаткова, трэба дзейнічаць актыўна. Неабходна супрацьстаяць ёй не вагаючыся і не адкладваючы, як толькі заўважаем небяспеку. Пакуль вораг знаходзіцца на парозе дома, ад яго лягчэй адбіцца, чым калі ўварвецца ўнутр. Іскру лягчэй патушыць, чым полымя. Няхай гэтая барацьба будзе рашучай, катэгарычнай. Той, хто таргуецца з ворагам і хоча пайсці на саступкі, толькі разахвочвае яго.

Калі спакушальнік набліжаецца звонку, трэба мець для яго рашучае Езусава "Адыдзі, сатана!" (Мц 4, 10). У цяжкасцях, звязаных з верай і чыстасцю, неабходна, наколькі гэта магчыма, пазбягаць небяспекі. Калі пачуцці спакушаюць – абуджаць агіду да граху альбо любоў да Бога: "Я хутчэй памру, чым пакрыўджу Цябе". Звяртацца да імпульсіўнай малітвы. Можна таксама зрабіць знак крыжа ці выкарыстаць святую ваду. Трэба паспрабаваць надаць думкам іншы напрамак, заняўшыся працай, чытаннем, цікавай і добрай справай.

## БОГ З НАМІ!

Вельмі важна падчас спакус, нават калі яны моцныя і настойлівыя, захоўваць раўнавагу. Хрысціянін не павінен баяцца спакусы, бо Бог абяцаў яму ласку, якую атрымае перад абліччам небяспекі. Хто турбуецца і нервуецца, шкодзіць самому сабе. Часам заблытваецца ў яшчэ горшыя непрыемнасці, як птушка, якая трапіла ў сетку. Спакуса – яшчэ не грэх. Св. Аўгусцін гаворыць: "Вораг можа брахаць, як сабака. Але укусіць можа толькі таго, хто дазволіць. Ён не здольны прымусіць нас даць дазвол, можа толькі выпрасіць".

Варта памятаць, што Бог з намі і дапамагае ў барацьбе. Таму, хоць духоўнае змаганне можа стаць крыніцай цярпення, нельга губляць душэўны супакой, шкадаваць сябе. Неабходна засяроджвацца на падтрыманні жывых адносін з Богам і пастаянным памяцьвярджэнні Яго панавання над нашым жыццём. Яно не павінна круціцца вакол спакусы ды граху і нават сродкаў (хаця яны і патрэбныя) для барацьбы з імі; але як Зямля круціцца па сваёй арбіце вакол Сонца, так і наша існаванне – вакол Бога, дабра і цноты. Неабходна памятаць, што гэта Бог ратуе, а не чалавек сам сябе.

## ДУХОЎНЫ МЕЧ

"І шлем збаўлення вазьміце, і меч духоўны, якім ёсць Божае слова" (Эф 6, 17). Божае слова – выдатная дапамога ў барацьбе са спакусамі. Езус даў нам прыклад таго, як дзейнічаць падчас выпрабаванняў, калі ў пустыні Яго спакушаў д'ябал. Хрыстос не ўступае ў дыскусію са злым духам, а адсякае ўсе яго прапановы Божым словам (параўн. Мц 4, 1–11; Лк 4, 1–13).

Эваргій Панційскі, манах, які жыў у IV стагоддзі, напісаў трактат "Аб распазнанні страсцей і думак". У гэты твор ён уключыў шмат урыўкаў са Святога Пісання, якія рэкамендуе паўтараць пры нападзе дрэнных думак. Манахі вучылі гэтыя словы на памяць, каб заўсёды быць напагатове ў момант спакусы. Часам прамаўлялі толькі імя Езус, што "адпраўляе ўсіх дэманаў у бегства" (у чым неадназова пераконваліся самі).

Важным сродкам з'яўляецца штодзённы рахунак сумлення, які ў святле Божага слова спрыяе распазнаванню ўсіх імпульсаў пачуццяў і думак, што могуць прывесці як да дабра, так і да зла. Ён дапамагае заўсёды быць пільнымі і ўважлівымі да дзеяння ў нашым жыцці як Бога, так і нячыстага.

## СПОВЕДЗЬ, ЗАСТУПНІЦТВА СВЯТЫХ І ДУМКІ ПРА КАНЕЦ ЖЫЦЦЯ І ВЕЧНАСЦЬ

Расказаць пра спакусу іншаму чалавеку – значыць рассакрэціць яе, што ў многіх выпадках робіць слабасць менш небяспечнай, а часта ўвогуле яе нейтралізуе. З-за сакраментальнага характару і таемнасці споведзь з'яўляецца прывілеяваным месцам для такога рассакрэчвання. У канфесіянале хрысціянін асаблівым чынам адкрывае на Божую ласку тыя вобласці сваёй душы, якія найбольш уразлівыя для нападаў зла. Эўхарыстыю ў сваю чаргу называюць лекам, які не толькі загойвае раны, нанесеныя грахом, але і ўзмацняе ласку, неабходную для паспяховай барацьбы са спакусамі.

Вялікая падмога – заступніцтва Марыі і святых. Імя Багародзіцы сее страх у стане ворага чалавецтва. Беззаганная сцірае сваёй пятой яго галаву. Нездарма Касцёл дае нам святых як апекуноў пэўных сфер жыцця. Яны прайшлі барацьбу са спакусамі і дзякуючы Божай ласцы здабылі перамогу. Напрыклад, св. Фаўстына і св. Ян ад Крыжа былі выбавлены Стварыцелем ад спакус супраць цноты чыстасці, таму разважанне пра прыкладам іх жыцця і малітва да іх, нават кароткая, дапамагае ў змаганні са спакусай, якая супярэчыць гэтай цноце.

"Ва ўсіх справах памятай пра свой канец, і тады ніколі не зграшыш" (Сір 7, 36). Успамін апошніх рэчаў: смерці, Божага суда, вечнага аддалення ад Бога; практыкаванне пакаяння, посту, устрымання і ўтаймавання цела праз адмаўленне ад таго, што лішняе, практыкаванне пакоры і малітвы, асабліва прыніжэнне сябе перад Богам і просьба аб Яго міласэрнасці, разважанне Мукі і Смерці Збаўцы – усё гэта служыць перамозе над спакусай да граху.

## БЫЦЬ ЗАНЯТЫМ

Важна, каб не было пустога месца ў душы і жыцці (параўн. Лк 11, 24–26). Варта нястомна запрашаць Хрыста да сябе ў сэрца, каб Ён і толькі Ён там панаваў. Дапаможным сродкам з'яўляецца план дня, каб мець час на малітву, працу і здаровы адпачынак, удзельнічаць у якой-небудзь супольнасці ці добрай справе. Бо калі актыўна рэалізуем сваё жыццё і пакліканне, адчуваем менш спакус.

"Чувайце і маліцеся, каб не паддацца спакусе" (Мц 26, 41а), – сказаў Збаўца апосталам у Гетсіманіі. Жыццё хрысціяніна з'яўляецца барацьбой, і так застанецца да самага яго канца. Наш Пан Езус Хрыстус сам змагаўся са спакусай, грахом, д'яблам і на сваім крыжы здабыў поўную перамогу, у якой мы ўдзельнічаем праз абсалютнае дарчэнне Яму свайго жыцця. Таму неабходна стойка супрацьстаяць нядобрым пабуджэнням, нават калі яны пастаянна вяртаюцца. Як сцвярджаў св. Францішак Сальскі, "пакуль барацьба працягваецца, супраціў не зламаны". Настойлівасць у рэшце рэшт будзе ўвенчана перамогай.

*Апрацаваў*
*кс. Аляксандр Сямінскі*



### Пра расійскіх навамучанікаў

**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыняў удзел у прэзентацыі кнігі "З Хрыстом да канца. Мучаніцтва слуг Божых у Савецкім Саюзе", якая адбылася ў Варшаве (Польшча).**

*На мерапрыемстве кіраўнік беларускага каталіцкага епіскапата звярнуўся да прысутных з прамовай. Іерарх нагадаў гісторыю распачацця беатыфікацыйнага працэсу расійскіх навамучанікаў, ля вытокаў якога стаяў сам.*

*Выданне змяшчае жыццярысы арцыбіскупа Магілёўскага Яна Цеплякa і 14-ці іншых ахвяр атэістычнага рэжыму. Сярод іх святары лацінскага і грэка-каталіцкага абрадаў, кансэкраваныя асобы і свецкія вернікі. Аўтар кнігі – вядомы даследчык і гісторык кс. Кшыштаф Пажарскі.*





**Школа св. Юзафа дае грунтоўны фундамент, на якім можам будаваць хрысціянскае жыццё. Следуючы наказам святога, нам будзе прасцей станавіцца сведкамі Езуса ў штодзённым атачэнні, паводле ўласнага паклікання. Ды і проста быць шчаслівымі – у зямным і нябесным свеце.**

Як добра было б мець побач кагосьці, хто ніколі не адмовіць у дапамозе, хто ўважліва выслухае і заўсёды падтрымае... Насамрэч, кожны з нас мае каля сябе такую асобу – непрыкметную, але дзейсную. Маўклівая постаць з Бібліі, без прысутнасці якой нельга ўявіць усю каштоўнасць дзеяў Евангелля.

19 сакавіка ўзгадваем самага важнага святога, які мае асаблівую ласку ў Бога – св. Юзафа. Яго прывабліва для вернікаў абумоўлена не толькі асаблівымі заслугамі ва Усявышняга, але і доследам звычайных штодзённых цяжкасцей. Таму хрысціяне маюць рацыю, калі шукаюць яго заступніцтва ў тых ці іншых складаных сітуацыях – спантанных і будзённых. Яго блізкасць да нас відавочная, бо са Святога Пісання жыццё св. Юзафа здаецца найбольш зразумелым простаму чалавеку. Ён блізкі нам у працы, у невядзенні сваёй будучыні, у сямейных клопатах і выхаванні дзяцей. Таксама, як і мы, св. Юзаф зарабляў на жыццё, клапаціўся пра блізкіх, перажываў з месяца на месяц, перажываў дробныя радасці і трывогі. Пры гэтым адно непадабенства св. Юзаф усё ж захаваў: у любой сітуацыі ён паводзіў сябе як сапраўдны Божы чалавек. І гэта дае кожнаму з нас падставу да разважання і пераймання.

*УРОК 1.*
***ЦАЛКАМ ДАВЕРЫЦЦА БОГУ***

Часта мы канцэнтруемся на ўласных праблемах, не заўважаючы нічога, акрамя іх. І турбуемся, што не знаходзім рашэння, якое прынясе палёгку. Як паступаў у падобных выпадках св. Юзаф, можна ўбачыць на прыкладзе яго рамесніцкай дзейнасці. Напэўна, здаралася, што заставаўся без працы, сутыкаўся з незадаволенымі кліентамі або павінен быў у спешцы рамантаваць пэўныя рэчы. Аднак, апрача гэтага, працаваў (разам з Езусам) у "супакоі сэрца".

Юзаф цалкам аддае сябе Божаму Провіду, бо ведае, што з Госпадам не трэба нічога баяцца, не зважаючы на перашкоды, якія Ён дапускае. Такая пазіцыя прамаўляе да сэрца больш, чым прыгожыя словы, асабліва калі заўважальны яе плён.

Супакой сэрца сярод мітусні... Юзаф быў апорай веры, нягледзячы на клопаты, праз якія праходзіў. Гэта азначае, што ніводнае з цярпенняў не магло быць для яго "злом", ніводнае не магло пашкодзіць яму. Дух заставаўся нязломным.

*УРОК 2.*
***БЫЦЬ ВЕТЛІВЫМ***

Па прыкладзе св. Юзафа можам менш гаварыць. І больш слухаць. Тады кожнае наша слова будзе напоўнена мудрасцю, якую дае Святы Дух у найбольш адпаведны момант.

Каб быць добрым і ветлівым, трэба захоўваць унутраную цішыню. Спакойная вада не шуміць, аднак бура можа напалохаць. Нельга дакрануцца да сэрца праз ураган, але праз подых ветру. Ветлівасць дапамажа нам выслухаць і пачуць бліжняга, пакідаючы яму права рабіць памылкі і перамяняцца. Ветлівасць дапаможа прысвяціць час іншаму чалавеку без пастаяннага паглядвання на гадзіннік, цалкам аддаючы сябе суразмоўцы ў канкрэтны момант. А плён не прымусіць чакаць: атачэнне будзе поўніцца ўдзячнымі і даверлівымі людзьмі.

*УРОК 3.*
***БЫЦЬ ПАКОРЛІВЫМ***

Які іншы святы застаецца настолькі непрыкметным, як св. Юзаф, але ў той самы час здольным займаць адно з найважнейшых месцаў у сэрцы Госпада? Юзаф быў абраны апекуном Божага Сына і меў важкую падставу для гонару. Аднак ён не паддаецца гэтаму пачуццю і застаецца ціплым. Выконвае ўсё, аб чым просіць Бог, і робіць гэта з вялікай паслухмянасцю. Не дыскутуе з Усявышнім. Не чакае ад Яго ніякага асаблівага стаўлення. У сваю чаргу робіць усё, што ад яго залежыць. Клапоціцца пра сям'ю і працуе, каб забяспечыць Марыю і Езуса неабходным. Застаецца ў іх цені, не ўзвышаецца, але ахвяруе сваю любоў і сябе цалкам. А ўзамен атрымлівае найвышэйшую ўзнагароду ад Пана.

*УРОК 4.*
***КЛАПАЦІЦЦА ПРА СЯМ'Ю***

Св. Юзаф выдатна ўмеў задбаць пра сям'ю, якая вылучалася сярод іншых сваёй "асаблівасцю". Бог і чалавек жылі пад адным дахам. І св. Юзаф павінен быў самастойна, выключна з дапамогай Божай ласкі, спраўляцца з нягодамі, якія прыносіла жыццё ў тыя часы.

Ён нёс на сваіх плячах шматлікія цяжкасці. Праблемы, з якімі сутыкнуўся, з'явіліся на самым пачатку яго бацькоўскай місіі. Трэба было знайсці месца начлегу для цяжарнай Марыі і куток, дзе яна магла б нарадзіць дзіця. Калі Езусу пагражала смерць ад рук Ірада, узнікла неабходнасць часова эмігрыраваць са сваёй сям'ёй у Егіпет. Калі небяспека адступіла, Марыя з Юзафам вярнуліся, але не накіраваліся ў Юдэю. Турбуючыся за лёс Езуса, пасяліліся ў Галілеі, у Назарэце.

Бачым, што св. Юзаф не баяўся прымаць рызыкоўныя рашэнні. Ён паспяхова выбіраў даступныя яму сродкі для рэалізацыі жыццёвай мэты. І гэтая мэта заключалася не толькі ў клопаце пра Святую Сям'ю. Юзаф усведамляў, што выкананне Божай волі дазволіць яму дасягнуць уласнай жыццёвай мэты – вечнага шчасця ў Валадарстве Нябесным. Праз прыклад апекуна Езуса Госпад паказвае, чаго прагне ад бацькоў сямей – імкнення да святасці і кіравання родных тым жа шляхам.

*УРОК 5.*
***СВЕДЧЫЦЬ СПРАВАМІ, А НЕ СЛОВАМІ***

Найлепшай евангелізацыяй з'яўляецца сведчанне жыццём. І св. Юзаф быў чэмпіёнам у гэтым: маўчаў, але дзейнічаў. Праз свае дзеянні ён зрабіў для нас куды больш рэчаў, чым маглі б здзейсніць словы. З уласнай волі і з поўнай свядомасцю ён згадзіўся звязаць свой лёс з жыццём Уцелаўлёнага Слова. Згадзіўся на ўсе адрачэнні, якія патрабавала ад яго гэтая выключная місія. Узяў на сябе адказнасць за Новонароджанага, не ставячы ніякіх умоў і не пытаючыся, як доўга гэта працягнецца. Стаў бацькам Дзіцяці-Бога, адзіным у сваім родзе бацькам.

Пагадзіўшыся, што ў яго доме з'явіцца на свет Месія, аўтаматычна прысвяціў Яму свой супакой і будучыню. Дзень за днём у шэрасці паўсядзённых абавязкаў св. Юзаф быў трывалым і паслядоўным у сваім рашэнні. Яго заслуга ў тым, што ў жыцці – з чалавечага пункту гледжання – без пэўнага плана і ўсялякай карысці ён цалкам давяраўся Пану. Таму яшчэ чаму мы можам навучыцца ў св. Юзафа – гэта безагляднa любіць праз свае чыны. Служыць бліжняму. Быць канкрэтным і практычным у гэтай любові і паслузе.

*Апрацавала*
*Ангеліна Марцішэўская*



### Канада закрывае шпіталі?

**Дзяржаўныя ўлады пазбаўляюць фінансавання тыя бальніцы, якія не згаджаюцца на правядзенне ў сваіх структурах эўтаназіі. На практыцы гэта азначае, што многія такія пляцоўкі будуць ліквідаваны.**

*Згодна з законам, кожная невылечна хворая ці ў нейкай ступені непаўнаспраўная асоба можа выкарыстаць права на эўтаназію. "Калі б усе канадцы мелі доступ да кваліфікаванай паліятыўнай апекі, меншая колькасць людзей патрабавала б смяротнай ін'екцыі. Замест таго, каб развіваць культуру апекі, мы імкнёмся ў напрамку смерці па патрабаванні", – каментуюць біскупы краіны.*



### "Нуль паперы"

**Пад такой назвай Канферэнцыя Біскупаў Іспаніі ініцыявала праект з улікам аховы навакольнага асяроддзя.**

*Падчас агульнага сходу епіскапата плануецца выкарыстоўваць лічбавую сістэму галасавання замест картачак. Важныя дакументы са сходу будуць даступны біскупам на планшэце.*

*Да гэтага часу біскупскія лісты заўсёды адпраўляліся духавенству на паперы. Зараз пачынаецца "тэставая фаза" новага метаду. Аднак нельга выключыць, што асобныя дадатковыя дакументы і выпраўленні надалей павінны будуць прадастаўляцца на паперы.*




## На чым палягае заступніцтва святых?

*Святое Пісанне дакладна забараняе аказваць каму-небудзь пакланенне і служэнне, акрамя адзінага сапраўднага Бога. Але не забараняе аддаваць належную пашану верным Яго слугам так, каб уся хвала адносілася да Яго ж Адзінага, як “дзіўнага ў святых сваіх” (параўн. Пс 67, 36).*

*Апостал Павел гаворыць: “Памятайце пра вашых настаўнікаў, якія абвяшчалі вам Божае слова і, разважаючы пра канец іхняга жыцця, наследуйце іх веру” (Гбр 13, 7). Калі Касцёл у гадавым цыкле ўспамінае мучанікаў і іншых святых, ён абвяшчае Пасхальную таямніцу ў тых, хто пакутаваў з Хрыстом і праслаўлены з Ім, прапаноўваючы вернікам іх прыклад, які прываблівае праз Хрыста да Айца, праз іх заслугі вымольвае Божую ласку. Мы ўшаноўваем памяць жыхароў Неба дзеля таго, каб еднасць усяго Касцёла ў духу ўмацоўвалася праз братнюю любоў, бо як зносіны паміж хрысціянамі на зямлі набліжаюць нас да Хрыста, так і зносіны са святымі яднаюць нас з Хрыстом.*

*З ушанаваннем святых звязана таксама ўшанаванне іх мошчаў. Св. Рыгор Багаслоў сцвярджаў: “Святыя мучанікі праслаўляюцца вялікімі ўшанаваннямі і святкаваннямі. Яны праганяюць дэманаў, лечаць хваробы, аб’яўляюцца, прамаўляюць. Самыя целы іх, калі да іх дакранаюцца і ўшаноўваюць, столькі ж дзейнічаюць, як святыя душы іх; нават кроплі крыві і ўсё, што носіць на сабе сляды іх пакут, гэтак жа дзейсныя, як іх целы”. Падобны прыклад маем у Святым Пісанні: “І памёр Елісей, і пахавалі яго. І полчышчы маавіцян прыйшлі ў зямлю на другі год. І было, што калі хавалі аднаго чалавека, дык, убачыўшы гэта полчышча, пахавальнікі кінулі таго чалавека ў магілу Елісееву, і ён, падаючы, дакрануўся да касцей Елісея, і ажыў, і ўстаў на ногі свае” (2 Вал 13, 20–21).*

*Як апісана ў Бібліі, габрэі ўшаноўвалі мошчы праведнікаў праз захаванне і пабудову над імі помнікаў і грабніц (параўн. Быц 35, 20; Зых 13, 19; Мц 23, 29). У Дзеях Апосталаў расказваецца пра выкарыстанне хустак і паясоў з цела апостала Паўла для лячэння хвароб і выгнання злых духаў: “Бог рабіў надзвычайныя цуды рукамі Паўла, так што на хворых ускладалі хусты і паясы з яго цела, і хваробы пакідалі іх, і злыя духі выходзілі з іх” (Дз 19, 11–12).*

*Пра ўшанаванне мошчаў святых VII Сусветны сабор сцвярджае: “Госпад дараваў нам мошчы святых як збаўчыя крыніцы, якія выліваюць дабрадзействы на нядужых. Тыя, што асмеліліся адкідаць мошчы мучанікаў, пра якія яны ведалі, што тыя сапраўдныя і праўдзівыя, калі гэта біскупы або клірыкі, – няхай будуць выключаныя з сану, а калі манахі і свецкія, – няхай будуць пазбаўлены прычашчэння!”.*

*А. Зміцер Чарнель CSsR*
***Паводле catholicnews.by***



# Арыенціры Яна Паўла II на Вялікі пост

***Сёлетні перыяд Вялікага посту перажываем у Год св. Яна Паўла II. Нельга не звярнуцца да спадчыны Папы і не “падсілкавацца” пасланнямі, якія ён кіраваў да вернікаў на працягу ўсяго пантыфікату, так, каб умацаваць свае сэрцы.***



### Навяртацца да Бога праз Езуса Хрыста

*Падчас Вялікага посту нам усім трэба з асаблівай увагай глядзець на Крыж, каб нанова зразумець яго прамову. Не можам бачыць у ім толькі напамін аб падзеях, якія адбыліся дзве тысячы гадоў таму. Павінны разумець вучэнне Крыжа так, як ён прамаўляе для нашых часоў, для сённяшняга чалавека: “Езус Хрыстус той самы ўчора і сёння, і навекі” (Гбр 13, 8).*

*У крыжы Збаўцы выражаецца моцны заклік да навяртання: “Навяртайцеся і верце ў Евангелле” (Мк 1, 15). І гэты заклік неабходна ўспрымаць як накіраваны да кожнага з нас і да ўсіх увогуле, асаблівым чынам з нагоды Вялікага посту. Памятайма таксама, што ў літургіі вялікапосных стацый, як і ў набажэнстве Крыжовага шляху, сузіральная малітва вядзе да яднання з таямніцай Таго, хто быў пасланы Богам перамагчы грэх, хоць сам не ведаў яго.*

*Па прыкладзе святых кожны ахрышчаны пакліканы верна пераймаць Езуса, які, накіроўваючыся ў Іерусалім, усведамляючы хуткую муку, вызнае вучням: “Я павінен прыняць хрост”. Такім чынам, вялікапосны шлях з’яўляецца для нас паслухмяным пераймannем Божага Сына, які стаў пакорлівым Слугой.*

### Быць нястомнымі працаўнікамі Хрыстовай Любові

*Вялікі пост – гэта сапраўдны і неадкладны заклік Пана да ўнутранага абнаўлення: як асабістага, так і супольнаснага – праз малітву і вяртанне да сакрамантаў, а таксама праз праяўленне любові, праз асабістую і калектыўную ахвяру часу, матэрыяльных сродкаў і разнастайных даброт, каб задаволіць патрэбы і прадухіліць беды нашых братоў па ўсім свеце.*

*Дзяленне з’яўляецца абавязкам, ад якога не могуць ухіляцца людзі добрай волі, а асабліва вучні Хрыста. Формы гэтага дзялення розныя: ад добраахвотнага служэння з годнай Евангелля спантаннасцю, ад шчодрых і не толькі аднаразовых дароў з таго, чаго ў нас зашмат, а часам і з таго, што нам самім патрэбна, да працы, прапанаванай беспрацоўнаму ці таму, хто вось-вось страціць надзею.*

### Чыніць так, як наказвае ўласнае сэрца

*Гэты заклік надзвычай актуальны. Каб кожны мог адчуць глыбокую радасць ад падзеленага з іншым пасілку, ад гасціннасці, аказанай падарожнаму, ад дапамогі бедным, ад прадастаўленай беспрацоўным працы, ад сумленнага і мужнага выканання сваіх грамадзянскіх і сацыяльна-прафесійных абавязкаў, ад міру, які пануе ў сямейным “санктуарыі” і ў міжасобасных адносінах. Усё гэта Божая любоў, да якой павінны навярнуцца.*

*Любоў, неразрыўна звязаная са служэннем, часта так моцна неабходным нашаму бліжняму. Стараймася заслужыць, каб у апошні дзень маглі пачуць ад Хрыста, што дабро, якое зрабілі аднаму з найменшых сярод Яго братоў, мы зрабілі Яму!*

### Правесці дбайную рэвізію жыцця

*У сучасным свеце акрамя самаахвярных сведкаў Евангелля хапае таксама ахрышчаных людзей, якія, пачуўшы няпросты заклік выправіцца “ў дарогу ў Іерусалім”, прымаюць пазіцыю маўклівага супраціву, а часам нават адкрытага бунту. Гэта бывае тады, калі малітва перажываецца імі, хутчэй, павярхоўна, а Божае слова не ўплывае на жыццё. Нават сакрамант пакаяння многія лічаць малаважным, а нядзельную Эўхарыстыю ўспрымаюць толькі як абавязак, які трэба выконваць. Як здзейсніць глыбокую перамену жыцця? Трэба адкрыць сваё сэрца на пранізлівае пасланне літургіі. Перыяд падрыхтоўкі да Пасхі з’яўляецца правідэнцыяльным Божым дарам і каштоўнай магчымасцю наблізіцца да Яго, уваходзячы ў сябе і прыслухоўваючыся да голасу ўнутраных указанняў.*

### Памятаць, што […] у прах вернешся

*У рэзультаце першароднага граху жыццё на зямлі было з самага пачатку ўпісана ў перспектыву смерці. Нашы целы смяротныя, г. зн. яны адзначаны немінучасцю смерці. Мы жывём, заўсёды маючы перад вачыма мяжу: кожны пражыты дзень непазбежна набліжае да яе. А смерць мае ў сабе штосьці ад знішчэння. Здаецца, што разам са смерцю ўсё заканчваецца. І менавіта перад такой прыгнятаючай перспектывай чалавек, усведамляючы свой грэх, узносіць да Неба вокліч надзеі: “Чыстае сэрца ствары ўва мне, Божа, і аднаві ўва мне трывалы дух. Не адкінь мяне ад свайго аблічча і не пазбаў мяне Духа Твайго Святога” (Пс 51 (50), 12–13).*

*Таксама сёння веруючы чалавек, які адчувае пагрозу зла і смерці, заклікае гэтымі словамі Бога, ведаючы, што яму наканавана вечнае жыццё. Усведамляе, што ён не толькі цела, асуджанае на смерць пасля граху, але і душа, якая не памірае. Таму звяртаецца да Бога, які здольны тварыць з небыцця; да Бога, Адзінароднага Сына, які, стаўшы чалавекам для нашага збаўлення, памёр за нас і ўваскрос з мёртвых, а цяпер жыве ў хвале; да Бога, бессмяротнага Духа, які ажыўляе і вяртае жыццё.*

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*




# Як парадзіць з няверуючым сужэнцам?



***Кс. Павел Салабуда,***
*псіхолаг*

Саюз паміж веруючай і няверуючай асобамі можа перажываць нямала складаных сітуацый. Яны бываюць рознымі, пачынаючы з таго, што такі чалавек не хоча хадзіць у касцёл сам, заканчваючы тым, што робіць немагчымым практыкаванне веры свайму веруючаму сужэнцу.

У залежнасці ад ступені “абцяжарвання жыцця” наступствы могуць быць больш ці менш балючымі псіхічна або нават фізічна. Самай распаўсюджанай праблемай у такіх адносінах з’яўляецца адсутнасць духоўнай сувязі і разумення ў сям’і. З аднаго боку, веруючы сужэнец спрабуе пайсці на саступкі, каб пазбегнуць чарговых канфліктаў, а з другога, жадае духоўнага росту, таму жыве ў стане пастаяннай унутранай барацьбы. Раю веруючай асобе шукаць падтрымкі ў касцёле, у размове са святаром, падчас споведзі і малітвы, у парафіяльных групах, а найперш у чытанні Божага слова. Неабходна нястомна, нягледзячы ні на што, пазнаваць Бога, узмацняць сваю веру, жыць як сапраўдны хрысціянін.

Здараюцца выпадкі, калі веруючая асоба хоча “сілай” навярнуць свайго сужэнца, але часцей за ўсё такія спробы дасягаюць зваротнага выніку. Не варта прымушаць кагосьці змяняцца. У падобнай сітуацыі далёкі ад Бога чалавек адчувае яшчэ большае нежаданне і мацней нервуецца. Бог заўсёды прагне для сужэнства адзінства. Таму найлепшы спосаб у такой сітуацыі – уласным прыкладам дэманстраваць сваю веру ў паўсядзённасці, станавіцца для няверуючай асобы жывым сведчаннем прысутнасці Бога ў жыцці. Св. Павел у Пасланні да Карынцянаў піша: “Бо няверуючы муж асвячаецца праз жонку, і няверуючая жонка асвячаецца праз мужа” (1 Кар 7, 14).

Наступным ратункам з’яўляецца малітва за сужэнца. Я хацеў бы пераканаць людзей, каб не гублялі надзеі, калі не бачаць імгненнага эфекту ад сваіх дзеянняў. Памятайма, у Бога заўсёды ёсць план жыцця для кожнага з нас і нашых сужэнстваў. Нябесны Айцец найлепш ведае, як дастукацца да сэрца чалавека, ніводзін дарадца не справіцца з гэтым. Можна таксама запрашаць сужэнца з сабой на розныя нефармальныя сустрэчы (экскурсіі, прагулкі, забавы), каб такім чынам няверуючы мог пазнаёміцца з вернікамі ў звычайных абставінах, убачыць, як выглядае іх паўсядзённая рэчаіснасць.

У самых складаных сітуацыях, такіх, напрыклад, калі няверуючы сужэнец катэгарычна забараняе веруючаму вызнаваць сваю веру, неабходна дамовіцца аб 2-3 гадзінах вольнага часу, якія можна выкарыстаць для ўласных патрэб. Аднак калі ўзнікае канфлікт сумлення (няверуючая асоба патрабуе ад верніка чагосьці несумяшчальнага з вучэннем Божым), тады варта прытрымлівацца слоў з Дзеяў Апосталаў: “Пётр і апосталы адказалі: «Трэба слухацца Бога больш, чым людзей»” (Дз 5, 29).

Хочацца звярнуцца да маладых людзей, якія збіраюцца закласці сям’ю, каб давяралі Богу гэтую справу і не недаацэньвалі пытанні, звязаныя з верай.

*Пытанні можна дасылаць на электронны адрас* ***solobuda@gmail.com***

НАВІНЫ




## ВЕЛІКАПОСНАЕ ЧУВАННЕ МОЛАДЗІ

У касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне адбылося малітоўнае чуванне. Сустрэчу, якая ўжо стала традыцыяй, арганізавала Душпастырства моладзі Гродзенскай дыяцэзіі "OPEN". Маладыя людзі сабраліся разам, каб паразважаць над сакрамантам пакаяння і паяднання, а таксама над умовамі, патрэбнымі для добрай споведзі.

Сустрэча распачалася св. Імшой, якую цэлебраваў Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі. Іерарх звярнуў увагу моладзі на апошнія падзеі ў свеце і заахвоціў яе аддаць свае турботы, перажыванні і страх Езусу Хрысту, даверыцца Пану Богу.

Удзельнікі чування, сярод якіх былі і алюмны Гродзенскай ВДС, прадставілі свае разважанні на тэму велікапоснага чування. Апошнім пунктам праграмы стала адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – час сустрэчы з жывым Хрыстом, калі кожны мог звярнуцца да Езуса, выказаць свае хваляванні, падзяліцца радасцю і смуткам, даваючы ўсё Даўцу жыцця.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Маладую парафіяльную супольнасць бл. Мар'яны Бярнацкай у Гродне наведаў кс. бп Юзаф Станеўскі. У касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Адамавічах (дэканат Сапоцкін), дзе на дадзены момант адпраўляюцца набажэнствы для вернікаў, якія пакуль не маюць сваёй парафіяльнай святыні, іерарх узначаліў св. Імшу. Ён пажадаў новай супольнасці, каб з Божай дапамогай яна як мага хутчэй вырашыла ўсе арганізацыйныя моманты, звязаныя з атрыманнем пляца пад будаўніцтва касцёла, а пасля з удзелам людзей добрай волі пабудавала сваю святыню.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У Сапоцкінскім культурна-гістарычным цэнтры адбылося велікапоснае прадстаўленне пад назвай "Я з вамі…". Яго падрыхтавалі старэйшыя вернікі мясцовай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча. Артысты імкнуліся данесці, што Бог побач у кожную хвіліну жыцця, што чалавек не раз адыходзіць ад Бога, але Ён заўсёды застаецца на адлегласці працягнутай рукі, і да Яго можна вярнуцца, нават моцна заблукаўшы.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У капліцы Гродзенскай ВДС з нагоды Міжнароднага жаночага дня адбылася св. Імша ў інтэнцыі жанчын, якія сваёй адданай працай у сценах семінарыі далучаюцца да важнай справы фарміравання асобы святара. Эўхарыстыю ўзначаліў кс. бп Юзаф Станеўскі.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Агульнабеларуская сустрэча салезіянскіх міністрантаў і кандыдатаў у міністранты адбылася ў Смаргоні. • Майстар-клас па маляванні для дзяцей прайшоў у гродзенскай парафіі Святога Духа. • 20-годдзе беатыфікацыі сясцёр мучаніц адзначылі ў Навагрудку. • Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч блаславіў новую пральню ў Доме міласэрнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын). • У Смаргоні прайшла сустрэча "Савіо-клуба". • Піярскія сустрэчы для юнакоў адбыліся ў Лідзе.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

АНОНСЫ

## ДНІ МАЛІТВЫ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ ПРОЙДУЦЬ У АДАМАВІЧАХ

**Сустрэча адбудзецца з 27 па 29 сакавіка і будзе прысвечана тэме "Нарадзіцца наноў".**

Да ўдзелу ў рэкалекцыях, якія арганізоўваюць сёстры кармэліткі Дзіцятка Езус, запрашаюцца дзяўчаты ад 14-ці гадоў. У праграме прадугледжаны тэматычная канферэнцыя, сакрамант пакаяння, роздум у цішыні, св. Імша, малітва, разважанне над Божым словам.

З сабой неабходна мець Біблію і нататнік.

*За падрабязнай інфармацыяй звяртацца па тэлефоне: (8 029) 884-39-67 – с. Ідалія.*

## ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Аўтобуснае паломніцтва адбудзецца з 27 па 31 мая.**

Маршрут пралягае праз Непакаланаў, Ліхень і Торунь.

*Атрымаць больш падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефонах: (80152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ ПРОЙДУЦЬ У ЛІДЗЕ

**Каталіцкая моладзь з розных парафій Гродзенскай дыяцэзіі збярэцца на сумесную сустрэчу і малітву 25–27 красавіка ў парафіі Святой Сям'і.**

На ДДМ запрашаюцца вучні школ, студэнты вышэйшых і прафесійных навучальных устаноў, працуючая моладзь.

*Дні моладзі Гродзенскай дыяцэзіі бяруць свой пачатак у 1993 годзе, калі біскуп Аляксандр Кашкевіч па прыкладзе Святога Айца Яна Паўла II пастанавіў прысвяціць асаблівую ўвагу выхаванню маладых вернікаў. Сёлета адбудзецца 27-мы з'езд.*

## ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні з 12 па 26 чэрвеня правядуць айцы езуіты.**

Асаблівасць рэкалекцый заключаецца ў тым, што яны праходзяць у маўчанні. Такую практыку прапанаваў св. Ігнацый Лаёла. Кожны дзень адбываецца асабістая размова з духоўным кіраўніком.

Да ўдзелу запрашаюцца свецкія вернікі, кансэкраваныя асобы і святары. Для тых, хто прыедзе ўпершыню, прадугледжаны больш кароткі тэрмін рэкалекцый.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 044) 465-18-78, (8 029) 511-19-74 – с. Вікторыя Жук MSF, – альбо праз электронную пошту: jezuity.by@gmail.com.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**22 сакавіка 2014 г.** – кс. Казімір Войнюш, *проб. Ішчольна;*
**24 сакавіка 1962 г.** – кс. Павел Багінскі, *проб. Суботнікі;*
**24 сакавіка 2017 г.** – кс. Леанард Нясцюк, *проб. Гервяты;*
**25 сакавіка 2005 г.** – кс. прэлат Казімір Шаняўскі, *проб. Радунь;*
**25 сакавіка 2009 г.** – кс. канонік Уладзіслаў Мяшчанскі, *душп. Сапоцкін;*
**26 сакавіка 1942 г.** – кс. Ян Хробаншч, *проб. Капцёўка;*
**26 сакавіка 1997 г.** – а. Францішак Кракоўскі CSsR, *проб. Макараўцы;*
**30 сакавіка 1975 г.** – кс. Станіслаў Сарока, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**31 сакавіка 1964 г.** – кс. Юльян Бароўка, *проб. Рэпля;*
**1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, *проб. Дзятлава;*
**4 красавіка 1961 г.** – кс. Стэфан Гародка, *проб. Белагруда.*

## Каляндар падзей

***22 сакавіка***
*IV Нядзеля Вялікага посту, называемая Нядзеляй радасці (Laetare).*

***25 сакавіка***
*Урачыстасць Звеставання Пана. Дзень святасці жыцця. Заахвочваем далучацца да Духоўнага ўсынаўлення ненароджаных дзяцей і да малітвы ў інтэнцыі зачатага жыцця.*

***29 сакавіка***
*V Нядзеля Вялікага посту. У святынях засланяюць крыжы і абразы Пана Езуса.*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***
*Аб духу пакаяння і сапраўднай перамены жыцця. У інтэнцыі ўсіх дыяцэзіян, каб адвярнуліся ад зла і больш жылі для Бога.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Красавік***
*Аб ласках, патрэбных для нашых біскупаў. У інтэнцыі ЯЭ кс. б-па Аляксандра Кашкевіча і ЯЭ кс. б-па Юзафа Станеўскага аб фізічных і духоўных сілах для іх.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Дзіцячы куточак

# Звеставанне Марыі

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Напэўна, Ты не адзін раз чуў гісторыю аб тым, як Архангел Габрыэль завітаў да Найсвяцейшай Панны Марыі і абвясціў, што Яна народзіць Божага Сына. Гэтая ўрачыстая падзея называецца Звеставаннем Пана і адзначаецца ў Касцёле 25 сакавіка.*

*Анёл быў пасланы Стварыцелем, каб раскрыць Яго волю. Бог вырашыў выканаць ранейшае абяцанне, што пашле свайго Сына, які выкупіць увесь свет ад граху. Ён робіць гэта, таму што вельмі любіць чалавека. Божы Сын – Езус – павінен быў нарадзіцца на зямлі, і Марыя павінна была стаць Яго Маці. З гэтым паведамленнем Анёл прыйшоў да Марыі. Ён сказаў: “Радуйся, поўная ласкі, Пан з Табой”, – што азначае вялікую пашану ад Бога. Марыя прыняла волю Пана з пакорай, аддала Яму ўсё жыццё.*

*У сцэне звеставання ёсць цудоўнае паведамленне пра Божую любоў. Трэба толькі адкрыць сваё сэрца і запрасіць Езуса ў жыццё, дазволіць прабываць у нас. Ён пераадолеў грэх, уваскрос і цяпер хоча жыць у кожным людскім сэрцы. Мусім быць адкрытымі, як Марыя падчас звеставання, каб прымаць волю Бога ў сваім жыцці, бо Усемагутны ведае лепш, што нам патрэбна. Аб гэтым няхай нагадае наступнае апавяданне.*

***Пэўны чалавек вельмі хацеў пазнаць Божы шлях, чаму свет выглядае так, як ён выглядае. Лёг пад дрэва і, разважаючы над гэтым, папрасіў у Бога даць адказ. Перад ім з’явіўся анёл і сказаў:***

***– Пойдзем са мной, і я пакажу табе шляхі Пана.***

***Не вагаючыся, ён рушыў услед за анёлам. Па дарозе яны сустрэлі двух чалавек: дрэннага і добрага. Першы ўручыў залаты кубак другому. Анёл пачакаў, пакуль яны заснулі, узяў ад добрага кубак і занёс яго дрэннаму. Чалавек, які ішоў з анёлам, спытаў:***

***– Што ты робіш? Гэта ж крадзеж!***

***– Не задавай пытанняў, проста ідзі і глядзі, і ты пазнаеш шляхі Пана, – адказаў анёл.***

***І яны пайшлі далей да хаты аднаго бедняка. Калі той выйшаў з дома, анёл падпаліў яго. Раззлаваны чалавек, які ішоў з анёлам, абурыўся і рынуўся тушыць полымя, але анёл не дазволіў яму.***

***– Як можна было падпаліць дом гэтага небаракі! Ты павінен дапамагаць людзям, а не здзекавацца з іх! – крычаў чалавек.***

***– Ты сказаў, што хочаш ведаць Божы план, таму не перашкаджай, а проста ідзі далей, – спакойна сказаў анёл.***

***Хутка яны дасягнулі струменя і спыніліся перад мосцікам. Туды ж падышлі бацька з сынам. Калі яны зайшлі на мосцік, анёл перавярнуў яго так, што бацька і сын упалі ў ваду. Цячэнне падхапіла дзіця, і яно патанула. Бацька вярнуўся дадому з болем у сэрцы.***

***– Не, досыць гэтага! Я цярпеў, калі ты абрабаваў справядлівага чалавека, калі падпаліў дом небаракі, але тое, што забіў нявіннае дзіця – ужо занадта! Ты не анёл, а дэман, – крычаў чалавек, здзіраючы капялюш з галавы анёла.***

***– Я анёл, пасланы Богам на зямлю, каб выканаць Яго волю і растлумачыць табе Божы шлях, – адказаў ён.***

***– Гэта няпраўда, Бог не такі! Ён, напэўна, не прымушаў цябе рабіць тое, што ты зрабіў, – крыкнуў чалавек.***

***– Добра! Я скажу табе, чаму дзейнічаў так у кожнай сітуацыі. У кубку, які ўзяў ад справядлівага чалавека, была атрута. Калі б я пакінуў яго, чалавек бы атруціўся. Злодзей, які хацеў атруціць праведніка, будзе пакараны за свае дзеянні. Бядняк, якому падпаліў дом, знойдзе на руінах вялікі скарб, які дазволіць яму квітнець да канца дзён. Мужчына, якога мы сустрэлі тут, каля струменя, быў дрэнным чалавекам. Ён не хацеў ведаць Бога і вёў бязладнае жыццё. Страціўшы свайго маленькага сына, які ўсё роўна апынецца ў Небе, ён навернецца да Бога і зменіцца. Так яны абодва будуць у Небе. Калі б я не зрабіў гэтага, абодва былі б асуджаныя. Ці гэтыя тлумачэнні, дапамаглі табе зразумець волю Бога?***

*Слухаючы гісторыі анёла з цікавасцю, чалавек зразумеў, што Бог бачыць усё па-іншаму, больш дасканала, чым людзі. Ён таксама зразумеў, што Бог мае лепшае рашэнне для ўсяго, хаця знешне гэта можа выглядаць вельмі балюча.*

*Дарагі Маленькі Чытач! Усе мы маем свае звеставанні. Так, як да Марыі, Бог і да нас пасылае анёла з цікавым паведамленнем. Гэтае паведамленне – праўда аб тым, што Бог вельмі нас любіць, і мае для кожнага свой план. Ён заўсёды робіць усё дзеля дабра чалавека, хоць часам гэтага не разумеем. Пэўныя падзеі ў жыцці могуць заставацца для нас загадкай. “Як гэта?”, “Гэта немагчыма!”, “Чаму я?” – часта кажам Богу. Марыя падчас Звеставання таксама ўсяго не разумела, але адказала анёлу: “Няхай мне станецца паводле твайго слова!”. Таму варта прасіць Марыю, каб мы маглі заўсёды з радасцю і даверам адказваць “так” на прапановы Бога.*

**Заданне:** *вывучы малітву “Анёл Панскі” і маліся ёю кожны дзень, каб лепш разумець, чаго ад Цябе хоча Бог.*

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, душэўнага супакою, сапраўднай радасці, аптымізму і нязгаснага запалу ў служэнні Богу і людзям. Няхай Маці Божая і святы заступнік старанна Табой апекуюцца, а міласэрны Бог адорвае мноствам шчодрых ласкаў.

*Любячая мама з сям’ёй*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем, каб жыццё праходзіла без турбот і часта сонейка ўсміхалася. Няхай добрае здароўе спрыяе Вам на працягу доўгіх гадоў, а Маці Божая захоўвае ад смутку.

*Апостальства “Маргарытка” і вернікі з Беняконяў*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін жадаем, каб Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекавалася Вамі, а высакароднае пакліканне прыносіла радасць і задавальненне ад выбару такога складанага і адказнага жыццёвага шляху. Праз заступніцтва св. Юзафа выпрошваем для Вас шчодрага плёну ў пастырскай паслузе, спакойных і ясных дзён, а таксама Божага благаслаўлення.

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскам**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, шчасця, стойкасці ў пастырскай паслузе, шмат сонечных дзён і добрых людзей побач. Няхай усемагутны Бог адорыць шчодрымі ласкамі, а святы заступнік і Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна Вамі апекуюцца.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Севасцьяновічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем, каб добры Бог адорваў Вас мноствам сіл, здароўя і цярплівасці для рэалізацыі планаў, Святы Дух спадарожнічаў і асвячаў жыццёвы шлях доўгія гады, а Маці Божая абдымала і ахінала цеплынёй свайго сэрца. Вы для нас прыклад, жыццёвы арыенцір. Ваша любоў да Бога, імкненне дайсці да кожнага з падтрымкай і з пасланнем Евангелля, шчырае жаданне сведчыць пра Усемагутнага словамі і ўчынкамі дапамагаюць нам рэалізаваць Божую волю, быць з Панам, ісці наперад і змяняць сваё жыццё. Мы ўдзячны за Ваш высілак пры рамонце касцёла. У малітве дзякуем Пану за тое, што Вы з намі, і просім аб святасці для Вас.

*Вернікі з парафіі св. Мікалая ў Міры*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, поспехаў у нялёгкай душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай усемагутны Бог узнагародзіць вытрымкай і радасцю, а св. Юзаф і Найсвяцейшая Панна Марыя дапамогуць у штодзённых справах. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас.

*Вернікі з парафіі Трабы*

**Паважанаму Ксяндзу Збігневу Драгулу**

з нагоды Імянін жадаем душэўнага супакою, радасці, сіл, моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, добразычлівых людзей побач. Няхай Бог блаславіць кожны момант жыцця, Марыя адорыць сваёй ласкай і апекай, а Анёл-ахоўнік засцерагае ад усякага зла.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Старых Васілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юзафу Ганчыцу**

з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Езус благаслаўляе на далейшыя гады працы на карысць Богу і людзям, а міласэрны Пан узнагароджвае за адданую паслугу. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Імянін жадаем, каб святы заступнік апекаваўся Вамі кожны дзень, Пан Бог спасылаў шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці ахінала плашчом мацярынскай апекі. Няхай жыццё праходзіць у радасці, а святарская паслуга прыносіць багаты плён на ніве Пана. Дзякуем Вам за кожнае слова, за прысутнасць, а найперш – за прыгожы прыклад святара.

*Маладыя сужэнствы з дзецьмі і святары, якія паходзяць з парафіі Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Імянін жадаем душэўнага супакою, аптымізму, шчырых і добразычлівых людзей побач. Няхай дарога, якой Вы штодзённа крочыце, будзе шчаслівай і благаслаўлёнай, здароўе – моцным, а радасць – нязгаснай. Няхай Ваш святы заступнік заўсёды чувае над Вамі. Дзякуем за шчырую малітву і ахвярную працу.

*Вернікі з парафіі Беззаганага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважаны Ксёндз Аляксандр Рудзевіч!**

З нагоды Дня нараджэння жадаем Вам здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, мужнасці і задавальнення ад святарскай паслугі. Няхай кожная хвіліна будзе напоўнена любоўю, а на твары заўсёды госціць усмешка. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.

*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і благаслаўлёным, побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі, а ў сэрцы жыве радасць і надзея. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, а моц ніколі не пакідае, Езус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы заступнік нястомна чувае над Вамі.

*Вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам’яна ў Астраўцы*

**Паважаны Ксёндз Віктар Ханько!**

З нагоды Дня нараджэння жадаем Вам спакою, здароўя, дабрыні, Божай дапамогі ў паслузе, гармоніі ў душы. Няхай Пан узнагародзіць шчодрымі ласкамі і адорыць даўгалеццем.

Віншуем Вас
з Днём нараджэння!
Святла Вам, міру і здароўя.
Абраўшы Госпаду служэнне,
Заўсёды Вы напагатове.
Не дапускаеце разладу
Нават у думках парафіян.
Ад душы мы Вам жадаем
Шчасця цэлы акіян!

*Парафіяне з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем спакою, радасці ў душы, задавальнення ад працы з вернікамі. Няхай рытм Вашага святарскага сэрца б’ецца рытмам любові Сэрца Езуса. Няхай святы заступнік абараняе ў кожную хвіліну жыцця, добры Бог адорвае бацькоўскім благаслаўленнем, Святы Дух асвячае дарогу, па якой ідзём разам з Вамі, Маці Божая ахінае цяплом свайго сэрца, а Анёл-ахоўнік пляце Вам вянок з белых руж.

*Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” з касцёла свсв. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Айцу Вітольду Пяцельчыцу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця, душэўнага супакою, усмешкі, шмат радасці і здароўя. Няхай Святы Дух дапамагае Вам выконваць душпастырскую паслугу і ўдзяляе свае дары, а Панна Марыя ахінае мацярынскім плашчом і апекуецца заўсёды і ўсюды.

*Вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, радасці, дабрабыту. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй апекай, Пан Езус бароніць ад няшчасцяў, а Святы Дух шчодра адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі.

*Вернікі з вёсак Вігушкі, Галімшчына, Сакавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай паслузе, радасці, стойкасці на кожны дзень, душэўнага супакою, доўгіх гадоў жыцця. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены прамянямі Божай міласэрнасці, а Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе сваёй любоўю.

*Былыя парафіяне, касцёльны хор з Вішнева*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сіл, цярплівасці ў выкананні штодзённых душпастырскіх абавязкаў. Няхай кожны дзень будзе багаты на спакой і Божае благаслаўленне. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас!

*Члены Ружанцовых колаў з парафіі Субботнікі*

**Паважанаму Ксядзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, плённай душпастырскай паслугі, душэўнага супакою, зычлівых людзей побач. Няхай Езус адорвае шчодрымі ласкамі, Анёл-ахоўнік дае сілы, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай апекай, а Святы Дух вядзе праз жыццё.

*Вернікі з Дзярэчына*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Дня нараджэння і надыходзячых Велікодных свят жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай, добрага здароўя, зычлівых парафіян, дароў Святога Духа, стойкасці ў пакліканні і шчодрых Божых ласкаў.

*Мама, брам Дзмітрый і брат Генрых з сям’ёй*

**Паважанай Арганістцы Спадарыні Тэрэзе**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, Божага благаслаўлення на кожны дзень і апекі Панны Марыі. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас за цудоўны спеў і адданую паслугу.

*Вернікі з в. Плоскаўцы і парафіі Селіванаўцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1446; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная